# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 13 (996) ГОД XX 30 САКАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"



*Першае месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў групе дуэтаў у катэгорыі фальклорнай песні занялі Людміла Грайко і Тамара Ільяшук з Бельскага беларускага ліцэя.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## МАЛЫ ЮБІЛЕЙ, А ШТО ДАЛЕЙ?



Ітак, ужо пяты раз гасцяваў Беласток цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня". Што ж, пяць год — гэта значны адрэзак часу, ён дазваляе сабраць назіранні і зрабіць некаторыя вывады.

Не будзе перабольшаннем, калі сцвердзім, што конкурс „Беларуская песня", асабліва яго цэнтральны агляд у Беластоку ператварыўся ў своеасаблівы міні-фестываль беларускай песні і стаў вядучым культурным мерапрыемствам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. І, здавалася б, агляд павінен атрымаць адпаведнае яго значэнню афармленне, у якім вядучае месца адводзілася б папулярызацыі ў горадзе Беластоку асноўных хаця б напрамкаў дзейнасці і дасягненняў нашай арганізацыі. На жаль, прасторнае фае кінатэатра „Звёнзковец", у якім адбываліся два апошнія цэнтральныя агляды, свяціла абсалютнай пустэчай. Днём з агнём нельга было знайсці ў ім якога-колечы прызнаку, што тут адбываецца самае важнае культурнае мерапрыемства БГКТ. А туды проста прасіліся добра запраектаваныя і багатыя выстаўкі аб рознабаковай культурна-асветнай і грамадска-палітычнай дзейнасці БГКТ, вырабаў народных умельцаў усходняй Беласточчыны па разьбе, пляценню, ганчарству, ткацтву. Праўда, у бягучым годзе, у самым цёмным і глухім куточку файе быў маленечкі столічак са стусікам календароў і інфарматараў пра БГКТ, але ці ж нельга было з гэтым выйсці шырэй, напрыклад, з прадуманай выстаўкай выданняў БГКТ (ёсць жа што паказаць!) і каб іх прадаваў не сівенькі дзядуля, але дзяўчына і юнак у беларускіх народных касцюмах? І яшчэ адно. Варта ўжо падумаць і аб спецыяльным каляровым, у беларускім народным стылі, плакаце, які б інфармаваў аб мерапрыемстве, а гледачы павінны мець магчымасць набыць элегантную каляровую праграму агляду. Зразумела, усё трэба прадумаць і належна загадзя падрыхтаваць.

У конкурсе штогод удзельнічае даволі шырокі круг выканаўцаў: сяляне, рабочыя, служачыя, студэнты, вясковая

(Працяг на стар. 3)

## НА РАБОЧЫМ і СЯЛЯНСКІМ ФРАНТАХ



Я, ведаеце, належу да тых людзей, якіх у аддзеле кадраў заносяць у рубрыку „сяляне-рабочыя", — усміхаецца **Арсень Койла** — сакратар аддзяловай арганізацыі ПАРП на чыгуначнай станцыі ПКП у Семяноўцы. — Паходжу з вёскі Дубіны каля Гайнаўкі, там і жыву з сям'ёй, а працую рабочым на перагрузачным пункце. На работу штодня даязджаю. Нялёгка прыходзіцца — працы ўдосталь, бо і на рабоце і дома на гаспадарцы. Але, праўду сказаўшы, дык інакш нельга. Гаспадаркі тае, што кот наплакаў, усяго тры гектары, не разгонішся, але і пакінуць яе — таксама ніякавата, шкада. Вось і прыходзіцца дзейнічаць на два франты: на рабочым і на сялянскім.

Так, „сялян-рабочых" на Беласточчыне шмат. Сябры па рабоце на прадпрыемстве цішком зайздросцяць ім дадатковых даходаў з гаспадаркі, а суседзі ў вёсцы — не без таго, каб сквапна палічыць іхнія штомесячныя „тысячы" прыбылі з працы па-за гаспадаркай. А „селянін-рабочы" перажывае, будучы на рабоце, калі бачыць, што пагода выразна псуецца, надыходзіць хмара, а ў яго на лузе валяецца сухое, бы перац, нязвезенае сена. Або калі, змардаваны цяжкай працай ад світання да змроку на гаспадарцы, ён становіцца на начную змену на прадпрыемстве. І з тымі дадатковымі „тысячамі" таксама па-рознаму бывае. З трохгектаравай гаспадаркі замнога не выціснеш — прыходзіцца дакладаць: як ні хлеў, дык клуня валяцца, а і з машын трэба што-небудзь прыдбаць. Не кажучы ўжо пра іх вольны час ды адпачынак! У такога чалавека не тое, што кожная гадзіна, але нават кожная хвіліна мусіць быць на ўліку. Ці ўсім „сялянам-рабочым" удаецца належна спраўляцца на рабоце і весці гаспадарку на высокім узроўні? Што ж, тут няма правіла. У адных гэта выходзіць лепш, у другіх горш, нават прыказка кажа: за двума зайцамі пагнаўшыся... Але яна зусім не датычыць А. Койла.

— Вядзем мы з жонкай адкормку свіней. І выходзіць нам гэта нязгорш: у мінулым годзе мы прадалі дзяржаве 1600 кг свініны, а ў гэтым годзе ўжо даставілі 230 кг, спадзяемся ж да канца года прадаць найменш 1000 кг. Цяпер плануем разам з братам М. Койлам і Г. Юрчуком заснаваць калектыўную гадоўлю свіней.

Але не толькі свой панадворак займае А. Койлу. Разам з А. Вашкевічам яны некалькі год таму назад заснавалі ў Дубінах сельскагаспадарчы гуртох. І працаваў ён добра, штогод меў даходы да паўмільёна злотых. У мінулым годзе гурток увайшоў у спулдзельню сельгасгурткоў у Гайнаўцы, а дакладней у яе прадпрыемства ў Навасадах. Ужо ў мінулым годзе яно дало каля 700 тысяч даходу. І гэта не без удзелу А.

(Працяг на стар. 4)

СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

## У СВЕЦЕ БЕЛАСТОЦКІХ НАЗВАЎ і ГАВОРАК

Рэдка хто патрапіў так спалучыць улюбёнасць у Беласточчыну з працай навуковага супрацоўніка, як доктар **Міхал Кандрацюк.** Схадзіў ён і з'ездзіў яе ўздоўж і ўпапярок, наведаў кожнае мястэчка і не абмінуў ніводнай нават самай малой вёсачкі. І пятнаццацігадовыя даследаванні прынеслі ўжо не малы плён — звыш 30 навуковых прац і артыкулаў.

А пачыналася ўсё так звычайна, як у многіх іншых вясковых хлапчукоў з-пад Белавежскай пушчы. Спачатку была школа ў Дубінах, што каля Гайнаўкі, і захапленне высакароднасцю настаўніцкай працы. Потым педагагічны ліцэй у Беластоку і актыўны ўдзел у дзейнасці школьных арганізацый. Як выдатніку і маладзёжнаму дзеячу яму была дана магчымасць паступіць у вышэйшую школу. У 1958 г. М. Кандрацюк абаронай магістэрскай працы *„Асаблівасці гаворак Гайнаўскага павету"*, напісанай пад кіраўніцтвам акадэміка АН БССР М. В. Бірылы, заканчвае аддзяленне рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і пачынае працаваць у Польска-савецкім інстытуце, у сектары беларускай філалогіі. Адначасова, каб пашырыць і паглыбіць свае веды па беларусазнаўству, ён паступае на аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У 1961 г. пад кіраўніцтвам праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай падрыхтаваў другую ўжо магістэрскую працу *„Геаграфічныя назвы на Беласточчыне тыпу „Ялоўка"*. Цяпер ужо працуе ў Інстытуце славянaзнаўства Польскай акадэміі навук і ўсяцэла аддаецца тапаніміі (вывучэнню мясцовых назваў) Беласточчыны. Даследуе архіўныя матэрыялы і вывучае мясцовыя назвы па ўсёй усходняй Беласточчыны, збірае матэрыялы з думкай аб доктарскай працы.



І ва універсітэце, і ў Інстытуце славянaзнаўства М. Кандрацюк не пакідае грамадскай дзейнасці. Ён уваходзіць у склад універсітэцкага праўлення ЗМП, а потым, ужо будучы членам партыі, дзейнічае ў бюро ПАРП на філалагічным факультэце і ў Першым аддзяленні Польскай акадэміі навук.

І ў той жа час малады вучоны нястомна пра-

(Працяг на стар. 4)



## ШТО НОВАГА?

# Крах „д'ябальскага саюза"

Ваенна-палітычны саюз паўднёваафрыканскіх і паўднёварадэзійскіх расістаў з партугальскімі фашыстамі называлі „саюз белай падковы", а яшчэ часцей „д'ябальскім саюзам". Тэрыторыі, падуладныя расістам і каланізатарам, нібы падковай ахоплівалі з поўдня незалежныя краіны Афрыкі. Гэта быў саюз не толькі трох найбольш рэакцыйных рэжымаў еўрапейскага і афрыканскага мацерыкоў. Ён знаходзіўся пад апекай усіх імперыялістычных сіл, якія імкнуліся стварыць у Афрыцы каланіяльны і расісцкі запаведнік.

Для імперыялістаў поўдзень Афрыкі, дзе сканцэнтраваны найбольшыя эканамічныя інтарэсы краін Захаду і з якім звязаны іх стратэгічныя разлікі, асабліва важны. Імперыялістычныя колы Захаду планавалі не толькі ўтрымаць у залежнасці партугальскія калоніі, але і ўстанавіць праз Прэторыю, Солсберы і Лісабон эканамічны і палітычны кантроль над сумежнымі незалежнымі афрыканскімі дзяржавамі. Гэта быў план наступлення на незалежнасць Афрыкі. Не выпадкова НАТО, міжнародныя манаполіі, ізраільскія сіяністы забяспечвалі ПАР, Паўднёвую Радэзію і Партугалію неабходнымі таварамі і сыравінай, фінансавалі гэтыя краіны, пастаўлялі ім навейшую ваенную тэхніку для барацьбы супраць афрыканскіх патрыётаў.

Звяржэнне рэакцыйнага рэжыму ў Партугаліі азнаменавала сабой не толькі канец партугальскага каланіялізму ў Афрыцы. Распаўся „д'ябальскі саюз" каланізатараў і расістаў. Узрасла актыўнасць нацыянальна-вызваленчага руху. Былі створаны ўмовы для нараджэння ў Афрыцы новых незалежных дзяржаў, а новы ўрад Партугаліі перайшоў ад ваеннага да палітычнага вырашэння каланіяльнага пытання.

Сувярэннай дзяржавай стала былая партугальская калонія Гвінея-Бісаў. У 1974 годзе яе прынялі ў члены ААН. У Мазамбіку створан часовы ўрад з прадстаўнікоў Фронту вызвалення (ФРЭЛІМО) і партугальскіх узброеных сіл. Ён будзе кіраваць краінай да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці, намечанага сёлета на 25 чэрвеня.

У студзені гэтага года паміж прадстаўнікамі ангольскіх нацыянальна-вызваленчых рухаў і партугальскага ўрада падпісана пагадненне аб незалежнасці Анголы. Неўзабаве там будзе створан пераходны ўрад, які падрыхтуе неабходныя ўмовы для абвяшчэння незалежнасці, намечанага на 11 лістапада 1975 года.

Распачаў выкананне сваіх абавязкаў пераходны ўрад на астравах Зялёнага Мыса. 30 чэрвеня 1975 года адбудуцца выбары ў мясцовы Заканадаўчы сход, а 5 ліпеня намечана абвясціць незалежнасць. Дасягнута таксама дамоўленасць аб прадстаўленні ў ліпені сёлетняга года незалежнасці астравам Сан-Томе і Прынсіпі.

Зусім нядаўна поўдзень Афрыкі з'яўляўся суцэльным расісцка-каланіяльным раёнам. Крах рэакцыйнага рэжыму ў Партугаліі пазбавіў расісцкіх правіцеляў у ПАР і Паўднёвай Радэзіі саюзніка, які меў буйныя, добра аснашчаныя ўзброеныя сілы, паставіў іх твар у твар з краінамі, якія знаходзяцца на парозе нацыянальнай незалежнасці. Лі-

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Да пленума ГП БГКТ ● Свята ў Паўлах ● Сустрэча з героем Савецкага Саюза ● „Дэмакратыя" па-сеульску ● Аб прыёме на завочную беларускую філалогію ● Бярэзінскі запаведнік ● Літстаронка ● Застанься жывым (новая аповесць) ● Весткі з Гайнаўкі, Рудкі, Зубава, Міхалова, Нараўкі, Лукі, Слоі, Бельска, Бервіхі, Пагулянкі, Белавежы, Ласінкі і інш. ● Песня „Dzień, najwyżej dwa".**



*Участак вырабу дыяфрагмы для вулканізацыі.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Гігант на Беразіне

Быццам сонечныя праменні, разбягаюцца ў розныя бакі дарогі з Бабруйска. Самая шырокая вядзе на поўнач, да вёскі Елавікі.

Зусім нядаўна на гэтай ускраіне была пустка, парослая хмызняком. А сёння тут шынавы камбінат — адзін з буйнейшых у Еўропе. Яго тэрыторыя займае плошчу больш чым 100 гектараў. Прадпрыемства запланавана як цэлы комплекс фабрык.

Будаўніцтва камбіната ідзе поўным ходам. Летам 1971 года быў аддадзены ў эксплуатацыю блок механічнага прадпрыемства, дзе вырабляецца нестандартнае абсталяванне, запасныя часткі для шынавай і некаторых іншых галін прамысловасці.

Дзень 10 студзеня 1972 года адзначыўся важнай падзеяй для маладога калектыву. У гэты дзень на эксперыментальным участку камбіната была зроблена першая буйнагабарытная беларуская пакрышка (апона) для 27-тоннага аўтасамазвала. Яе дыяметр 2 метры, а вага 320 кілаграмаў. Так заявіў аб сваім нараджэнні яшчэ адзін гігант вялікай хіміі рэспублікі.

Затым была закончана пабудова галоўнага корпуса па вытворчасці буйнагабарытных шынаў. А ў студзені 1973 года дзяржаўная камісія падпісала акт аб прыёме ў эксплуатацыю першай чаргі завода буйнагабарытных шынаў. Пачаты серыйны выпуск „абутку" для вялікагрузных машын. Да гэтага часу беларускія шыннікі ўжо далі шмат тысяч пакрышак для „БелАЗаў" і іншых машын. У канцы мінулага года была аддадзена ў эксплуатацыю і другая чарга завода.

Буйнейшае па сваіх маштабах і па значэнню прадпрыемства патрабуе і большую колькасць кваліфікаваных працаўнікоў. Большасць шыннікаў павінна мець не ніжэй чым пяты разрад. Таму тут распрацаваны і ажыццяўляецца канкрэтны план падрыхтоўкі кадраў. Пры камбінаце створаны і працуюць тэхнікум гумавай прамысловасці амаль на 1000 і вытворча-тэхнічнае вучылішча на 400 вучнёўскіх месц.

Плануецца пабудаваць вялікі пасёлак шыннікаў з ансамблямі пяці і дзесяціпавярховых дамоў. У ім будзе пражываць не менш 60 чалавек. У 1972 годзе рабочыя і служачыя прадпрыемства ўжо атрымалі прыблізна 30 тысяч квадратных метраў выгадных кватэр. Для жыхароў пасёлка пабудаваны прафілакторый з вялікімі прытульнымі заламі, пакоямі адпачынку, спартыўныя пляцоўкі, плывальны басейн.

Там, на месцы былой пусткі, расце, распрастоўваючы свае магутныя плечы, гігант вялікай хіміі Беларусі. Ён уносіць значныя змены ў воблік горада на Беразіне. Бабруйск робіцца адным з буйнейшых цэнтраў хімічнай прамысловасці Беларускай ССР.

**С. Каламіец**
Фота **В. Казлова**



*Прадукцыя шынавага завода служыць „абуткам" і для такіх машын, як „Кіравец" Ленінградскага машынабудаўнічага завода.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 13 сакавіка адбылося пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення, які абмеркаваў наступныя справы: 1) даклад на пленум ГП БГКТ, 2) справаздачу аб конкурсе на беларускую песню і 3) арганізацыйныя справы (на павестцы дня стаяла справа штатнага працаўніка для праўлення гарадскога аддзела ў Беластоку. Ранейшы штатны працаўнік Валянціна Цімашук перайшла на іншую работу).

■ У Кольне на аглядзе фальклорных калектываў Беласточчыны, што адбываўся 15 і 16 сакавіка, жаночы хор БГКТ з Гарадка заняў першае месца. З вялікай сардэчнасцю сустрэўся ён таксама падчас урачыстага канцэрта лаўрэатаў.

■ Тэатральны калектыў з вёскі Паўлы (Беластоцкі павет) 15 сакавіка святкаваў 20-ую гадавіну свайго існавання. Аб гэтай урачыстасці будзе спецыяльная публікацыя ў „Ніве".

■ Харавая група мастацкага калектыву гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку „Каласкі" 16 сакавіка дала канцэрт у вёсцы Трасцянка на Гайнаўшчыне.

■ Членскія складчыны аплаціла ўжо шмат гурткоў БГКТ у гайнаўскім і бельскім аддзелах. Добрая праца кожнага аддзела ў многім залежыць ад колькасці актывістаў, ад іх актыўнасці і жадання грамадска працаваць для дабра сваёй арганізацыі. На жаль, большасць нашых аддзелаў вельмі слаба „абрастае" актывам. Нават многія члены праўленняў маюць недастатковую сувязь са сваім прэзідыумам, а нават з гуртком, да якога належаць. Прэзідыумы аддзелаў павінны падумаць над тым, як мабілізаваць актыў да бэгэкатоўскай працы.

■ 15 сакавіка ў вёсцы Слоя, што на Сакольшчыне, пад старшынствам Марыі Федзюкевіч адбыўся ўрачысты сход гуртка БГКТ, на якім штатны працаўнік сакольскага аддзела Вера Семянюк уручыла 15 асобам членскія легітымацыі БГКТ уступіўшым у гурток. Пасля гэтага сходу ў мясцовым клубе адбылася танцавальная маладзёжная вечарына.

(мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 30.III.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 9.45 Korona carów rosyjskich — film radz. 10.50 Pr. dla wsi. 11.20 Klub Sześciu kont. 12.05 Hrabia Luxemburg — film. wers. operetki F. Lehara. 13.40 Dla dzieci: H. Januszewska „Paluszek". 14.20 W 30 lat później — rep. film. 15.00 XYZ cz. I. 15.50 II poł. meczu p. n. Gwardia — Stal (Mielec). 16.40 Los. Toto-Lot. 16.55 Port lotniczy San Francisko — film fab. amer. 18.30 Studio Muz. Rozr. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Cudowne dziecko czyli strzępy z życiorysu Bogdana Łazuki. 21.10 Poszukiwany, poszukiwana — film fab. pol. 22.40 Co kto lubi — wyd. spec. 23.50 Sport.

**Poniedziałek 31.III.** 8.40 Pr. dnia. 8.45 Now. w domu i zagr. 9.10 Disneyland. 10.00 Spotkania po latach. 10.35 Lud. zwycz. wielkanocne. 11.05 Winnetou i Apanaczi — film fab. jug. 12.35 Piórkiem i węglem. 13.00 Flet. 13.50 Dla dzieci. 14.20 XYZ cz. II. 15.00 Tele—Echo — wyd. spec. 16.00 w starym kinie. 17.10 Pr. rozr. 17.55 Progi bariery. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: C. K. Norwid — „Aktor". 21.50 Przeboje świata. 22.30 Sport.

**Wtorek 1.IV.** 9.00 Dla mł. widzów. 10.50 Adam Sangala — film ser. TV CSRS odc. I. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci: „Spacer pod psem" — film pol. 17.05 Zwierzyna płowa na Węgrzech — film dok. węg. 17.40 Studio Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Stare Zakopane. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Adam Sangala — film ser. TV CSRS odc. I. 21.15 Interstudio. 21.55 Dziękujemy, panie Kazimierzu. 22.25 Dzien. 22.40 Sport.

**Środa 2.IV.** 10.00 Romeo i Julia — film fab. radz. 14.40 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Latający Holender. 17.15 Inf., Tow., Prop. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Pierwszy po Bogu — rep. film. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Pożar w oficynie — film TV radz. 18.45 Godzina Orfeusza. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kozi róg — film fab. bułg. 22.00 Sylwetki X Muzy. J. Nalberczak. 22.25 Dzien. 22.40 Sport.

**Czwartek 3.IV.** 8.00 Kurs Informat. 10.00 Twarz mordercy — film (S.O.S.). 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Hinduska baśń — pr. balet. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Przyp., radz. 18.35 Z kamerą w TV Budapeszt — rep. film. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Twarz mordercy — film (S.O.S.). 21.15 Czym żyje świat. 21.45 Sport. 22.00 Węgierskie przeboje płytowe. 22.30 Dzien.

**Piątek 4.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 10.00 Gdzieś w Europie — film fab. węg. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.50 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pora na Telesfora. 17.15 Z receptą na zdr., 17.40 Dla mł. Pomysł na lato. 18.00 Poradnia Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, op. hip. 19.10 Wyst. Amb. Węgier. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Hokej. Polska — Szwecja (III terc.). 21.10 Panorama. 21.50 Wielcy detektywi — film ser. fr. 22.45 Dzien. 23.00 Sport.

**Sobota 5.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 10.00 Wielcy detektywi — film ser. fr. 13,20 Tech. Rol. Mat. 13.50 Mech. rol. 14.25 Pr. dnia. 14.30 Pr. I prop. 14.45 Kr. Warsz. i Maz. 15.05 Red. Szk. zap. 15.15 Inf. Wyd. 15.35 Dzien. 15.45 Sobótka. 16.10 Harcerskie popołudnie. 17.00 Hokej Szwecja — CSRS (II i III terc.). 18.30 Spotkanie w drodze. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Franco i Adriana — film fab. wł. 21.40 Dzien. 22.00 Wieczór autorski — Prof. J. Z. Jakubowski. 22.30 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 28.III.** 8.00 Film. fab. 12.20 W eterze „Młodość". 13.00 Film fab. 17.00 Koncert I. Kozłowskiego. 17.55 Film fab. 19.30 Hokej. Szwecja — ZSRR.

**Sobota 29.III.** 11.45 Film dok. 13.30 Film fab. 17.00 Spektakl. 19.30 Pr. rozr. 20.50 Łyżwiarstwo. Puchar ZSRR.

**Niedziela 30.III.** 9.00 Dla dzieci. 9.45 Film dok. 11.30 Film fab. 13.10 Panorama międzynar. 13.40 Romanse. S. Rachmaninowa. 14.35 Klub film. 15.35 Film anim. 16.15 Narciarstwo. Zaw. międzynar. 17.30 Film fab. 19.30 Balet. 20.05 Boks. Spartakiada narodów ZSRR. Finał.

## КІНО

**Białowieża** Ucieczka King Konga — jap. 1—2. W imieniu narodu włoskiego — wł. 3—4. Przygody Hucka Fina — radz. 5—6.

**Czeremcha** Pojedynek rewolwerowców — USA 1—2. Zaczarowane podwórko — pol. 5—6.

**Czyże** On nie chciał zabijać — radz. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 2—6.

**Dubicze Cerkiewne** Żółtodziób — radz. Doktor Popaul — fr. 2—6.

**Gródek** Człowiek, który przestał palić — szwedz. 5—6.

**Kleszczele** Księżniczka Czardasza — węg. 1—2. Dzięcioł — pol. 3—4. Opowieść w czerwieni — pol. 5—6.

**Michałowo** Komandosi — wł. 1—2. I pozdrawiam jaskółki — czes. 3—4. Pójdziesz ponad sadem — pol. 5—6.

**Milejczyce** Śmierć Ipu — rum. 1—2. Ewa chce spać — pol. 3—4. Dowódca armii — radz. 5—6.

**Narew** Czyste ręce — rum. Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii — angl. 2—6.

**Narewka** Pomyłka szpiega. — radz. Poczekam aż zabijesz — czes. 2—6.

**Nurzec** Kto śpiewa nie grzeszy — jug. 1—2. Osobliwa miłość — wł. 3—4. 150 na godzinę — pol. 5—6.

**Rajsk** Ostatnie wakacje — radz. Tylko umarły odpowie — pol. 2—6.

**Suchowola** — Potop — pol. cz. I. 2—6.

B.Z.Graf. zam. 1064 P-1

 

(Працяг са стар. 1)

# У СВЕЦЕ БЕЛАСТОЦКІХ НАЗВАЎ І ГАВОРАК

цуе на ніве беларусазнаўства. Праўда, першая публікацыя *„У 80-годдзе са дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа“*, што ён напісаў у сааўтарстве з Мікалаем Врублеўскім і што была выдадзена брашурай у 1962 г. Галоўным праўленнем таварыства польска-савецкай дружбы, непасрэдна не адносілася да сферы яго мовазнаўчых зацікаўленняў, але паклала добры пачатак, бо ў 1964 г. у часопісе „Slavia Orientalis“ паяўляецца першы артыкул М. Кандрацюка *„Вакалізм беларуска-ўкраінскіх гаворак Гайнаўскага павету“*. Потым жа пасыпаліся большыя і меншыя публікацыі, артыкулы, рэцэнзіі.

М. Кандрацюк у сваіх даследаваннях канцэнтруе ўвагу на трох галінах: вывучэнні гаворак Беласточчыны, яе тапаніміі і антрапаніміі, а таксама моўных беларуска-ўкраінска-польскіх і славяна-балтыйскіх сувязяў. Самыя каштоўныя сярод дагэтуль апублікаваных яго работ гэта: *„Словаўтваральныя тэндэнцыі ў назвах жыхароў вёсак на польска-беларуска-ўкраінскім моўным пагранiччы“*, *„Вакалізм беларуска-ўкраінскіх гаворак Гайнаўскага павету“*, *„Вымаўленне даўняга „ц“ мяккага ва ўсходнеславянскіх гаворках Беласточчыны“* і іншыя. Яго работы змяшчаюць такія вядомыя ў сусветным мовазнаўстве часопісы, як „Вопросы языкознания“ (СССР) і польскія „Acta Baltico — Slavica”, „Slavia Orientalis”, „Studia z filologii polskiej i słowiańskiej” і іншыя. У зборніку „Беларускае і славянскае мовазнаўства“, выдадзеным у гонар акадэміка К. К. Крапівы, у сувязі з яго 75-годдзем М. Кандрацюк апублікаваў артыкул: *„Назвы жыхароў, утвораныя ад назваў вёсак у гаворках усходняй Беласточчыны“*.

У 1970 г. М. Кандрацюк абараняе доктарскую дысертацыю на тэму *„Назвы мясцовасцей паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Мовазнаўчы аналіз“*, якую падрыхтаваў пад кіраўніцтвам праф. А. Абрэмбскай-Яблоньскай. Аб'ёмістая праца нядаўна ўжо выйшла кнігай у выдавецтве „Ossolineum“. Яна — вынік карпатлівых даследаванняў назваў мясцовасцей у Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім і суседніх з імі паветах, а таксама доўгіх пошукаў у архівах Польшчы, Вільнюса, Мінска, Масквы і Кіева. Праца мае піянерскі, адкрыўчы характар.

Многа часу і ўвагі адвёў М. Кандрацюк падрыхтоўцы да друку „Навуковага зборніка“, што выдалі ў 1974 г. пад яго рэдакцыяй Галоўнае праўленне БГКТ і Беластоцкае навуковае таварыства.

У гадах 1961-1971 ён працаваў пры рэгістрацыі і апрацоўцы дыялектных назваў тапонімаў і мікратапонімаў на Беласточчыне па даручэнню Камісіі для ўстанаўлення назваў мясцовасцей і геаграфічных аб'ектаў пры Савеце Міністраў Польскай Народнай Рэспублікі. Апрача працы ў Польскай акадэміі навук ён з'яўляецца навуковым кансультантам аддзела замежных моваў пры Інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў, што дзейнічае пры Міністэрстве асветы і выхавання. Прымае актыўны ўдзел у працах мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства. У яго планах на будучыню — падрыхтаваць габілітацыйную працу на тэму *„Даўнія і сённяшнія моўныя падзелы Беласточчыны“*. Цяпер жа доктар М. Кандрацюк рыхтуе даклад аб вывучэнні тапаніміі Беласточчыны, з якім выступіць восенню бягучага года на польска-шведскім навуковым сімпозіуме і даклад на сімпозіум у Мінску на тэму *„Беларуска-польскія ізалексы“*.

І так, свет назваў усходняй Беласточчыны, узаемныя польска-беларуска-ўкраінскія моўныя ўплывы тут і шэраг іншых нераскрытых мовазнаўчых праблем, дзякуючы даследаванням М. Кандрацюка адкрываюць свае таямніцы.

*М. Гайдук*

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### СЯТКАРКІ

Добрых спартыўных поспехаў дабілася каманда сяткоўкі з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя М. Каперніка ў Саколцы. Удзельнічала яна ў міжкласных спаборніцтвах і з камандамі сярэдніх беластоцкіх школ: з агульнаадукацыйнага ліцэя № 2 і Малочнага тэхнікума.

Жаночая каманда сяткоўкі выступае ў складзе: Тэрэса Дандзіла, Эва Каліноўская, Анэта Чайкоўская, Малгажата Кірпша, Вяслава Шумінская, Анна Баенская, Анна Гжыбэк і Аліна Дзенісовіч. Найбольш у ёй вучаніц з першага класа, затым другога і трэцяга. Дзяўчаты мелі добрую падрыхтоўку да ігры ў сяткоўку ў пачатковых школах: у пачатковай школе № 4 у Саколцы, Вострай Гары і Старой Камёнцы, дзе спорт стаяў на высокім узроўні. Трэніроўкі каманда праходзіць пад кірункам мгр Багдана Шпурко. Школа абяспечыла каманду спартыўнымі касцюмамі. Сяткаркі трэніруюцца па 3-5 гадзін у тыдзень у фізкультурнай зале або на новапабудаванай спартыўнай пляцоўцы.

Варта дадаць, што ўсе спартсменкі, якіх бачым на здымку, таксама добра вучацца, маюць свае любімыя прадметы, у вольны ад навукі час ахвотна слухаюць сучасную музыку.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## НА РАБОЧЫМ І СЯЛЯНСКІМ ФРАНТАХ

(Працяг са стар. 1)

Койлы, бо ён з'яўляецца членам савета прадпрыемства.

— На перагрузцы людзі ў нас стараннывя. У мінулым годзе наша перагрузачная станцыя план выканала. Добра папрацавалі ўсе, але асабліва члены партыі. Па ініцыятыве нашай арганізацыі ў мінулым годзе была арганізавана грамадская праца пры рамонце дарогі, даезду да станцыі. За прыкладам членаў партыі пайшлі і беспартыйныя. Працавала каля 300 чалавек. Добрая арганізацыя і належная праца дала дасканалы вынік — цяпер маем ладны даезд да станцыі. У час партыйнага чыну мы працавалі пры разгрузцы таварнай масы, датэрмінова звольнілі значную колькасць вагонаў, а гэта прынясло карысць усёй дзяржаве.

Грамадскай працы А. Койла прысвячае ўвесь свой вольны час. Ужо другі раз аддзяловая партыйная арганізацыя выбрала яго сваім сакратаром. З 1972 па 1974 г.г. яе рады павялічыліся на 16 новых членаў і кандыдатаў. А гэта вымагала вялікай працы перш за ўсё ад сакратара. Людзі шануюць А. Койлу не толькі за яго працавітасць, саліднасць, сардэчнасць. Ён заўсёды з'яўляецца выразіцелем волі і думак усяго калектыву.

Вось хоць бы ў справе належнага абсталявання сацыяльнага аб'екту для грузчыкаў. Справа важная, бо датычыцца ўсяго рабочага калектыву. Кожнаму неабходны светлы і цёплы куток, дзе ён мог бы памыцца, паесці, адпачыць. А такога аб'екта пакуль што няма ў Семяноўцы. Людзі мусяць таўчыся ў цесным будыначку, дзе нават цёплай вады ўдосталь няма. А гэта ўсё тыя ж „сяляне-рабочыя“, якія штодня даязджаюць да працы. Многія з іх прыязджаюць на работу на гадзіну-паўтары раней змены, а пасля яе мусяць зноў чакаць транспарту. Партыйная арганізацыя на чале з А. Койлам гэтую справу ставіла перад варшаўскай дырэкцыяй ПКП, але тая збыла яе тым, што грошы на пабудову аб'екта ёсць, але няма выканаўцы. Тады А. Койла звярнуўся да Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы і таварышы з камітэта паабяцалі ўзяцца за гэта і давесці праблему сацыяльнага аб'екта да належнага вырашэння на карысць рабочых.

Гэта толькі для прыкладу. Пра дзесяткі іншых, меншых спраў, што датычацца ўсіх рабочых Семяноўкі, а якія таксама не маглі б быць паспяхова вырашаны без удзелу А. Койлы, няма магчымасці расказаць у кароткім артыкуле.

**І. Снарскі**
Фота аўтара

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### Аляксандр Засім

Селянін вёскі Тарнопаль Гайнаўскага павету Аляксандр Засім заваяваў вялікі аўтарытэт у аднасяльчан. Ён на працягу апошніх 15 гадоў з'яўляецца солтысам, ад вызвалення выконвае функцыю раднага і ўжо 12 гадоў — функцыю старшыні мясцовага сельскагаспадарчага гуртка. Член ЗСЛ. Усе грамадскія абавязкі выконвае паспяхова. За ўсе гады яго старшынства сельгастуртoк не меў страт. Трактарысты як мала дзе мелі ў „кулку“ добры заробак і таму працуюць у ім ад заснавання.

Дзелавы і энергічны Аляксандр Засім лічыць давер людзей самай пачэснай у жыцці ўзнагародай.

Працалюбівы тарнопальскі хлебароб вядзе васьмігектаравую гаспадарку. Мае пяць гектараў ворыўнай зямлі. Гадуе шэсць штук рагатай жывёлы. Штогод рыхтуе ёй на зіму кішонку ў двухкамерным сіласе. Дзяржаве Аляксандр Засім прадае ў сярэднім 800 кілаграмаў збожжа, тры тоны бульбы, пяць-шэсць тысяч літраў малака ў год.

Пад кірункам гмінных аграномаў вопытны гаспадар вядзе доследныя палеткі з рознымі сартамі аўса і ячменю. Найбольш вартасныя і высокаўраджайныя сарты насення гэтых збожжавых культур бяруць аднасяльчане на абмен.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

(Працяг са стар. 3)

Антон Луцкевіч ніколі не знаходзіўся ў лагеры грамадскай рэакцыі. Меў ён эвалюцыяністцкія перакананні. Найвялікшым скарбам народу лічыў культуру, безупыннае яе развіццё. Заблытаўся ў палітычнай барацьбе. Ягонае жыццё адбывалася зігзагамі.

Аляксандра Бергман піша ў заканчэнні нарысу:

*„Таму пакінуў ён палітычную арэну, як трагічная постаць. Знаходзіўся ля калыскі руху, які перарос яго ды ўрэшце адкінуў. Нягледзячы на тое, ягоныя заслугі для беларускага адраджэнчаскага руху, для беларускай культуры з'яўляюцца выдатнымі ды бясспрэчнымі“.*

Аляксандра Бергман публікуе два лісты Антона Луцкевіча да Ігнацыя Падарэўскага — ад 27 кастрычніка 1919 г. і ад 11 ліпеня 1935 г.

**Сакрат Яновіч**

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН (1887-1920) — ЧАСТКА І

Сапраўднае прозвішча пісьменніка Аляксандр Прушынскі. Належаў ён да плеяды беларускіх пісьменнікаў-нашаніўцаў. У нашаніўскім літаратурным руху далучыўся ён да нацыянальнага і сацыяльнага радыкальнага крыла. Гарун быў паэтам і празаікам, аднак дамінавалі ў яго творчасці вершаваныя формы.

Нарадзіўся 11 сакавіка 1887 г.

Паходзіў Гарун з сям'і чорнарабочага. Дзяцінства яго прайшло ў цяжкіх, тыповых для жыцця тагачасных рабочых умовах. Дамашняя атмасфера, настрой рабочага наваколля залажылі ў душы дапытлівага хлапца фундамент яго пазнейшай рэвалюцыйнай ідэалогіі. Бацькі Гаруна разумелі значэнне адукацыі ў жыцці чалавека. Дзякуючы іх дапамозе Гарун у дашкольным узросце зусім добра чытаў па-руску і па-польску. На сёмым годзе жыцця пачаў хадзіць у прыхадскую школу, якую закончыў у 1899 годзе. Праз два гады паступіў у Мінскае рамеснае вучылішча. На працягу трох гадоў вучыўся ў гэтай школе на дрэваапрацоўчым аддзяленні. Дзякуючы гэтай школе пазнаў добра сталярнае рамясло.

Амаль кожныя канікулы праводзіў Гарун у вёсцы на гаспадарцы сваёй цёткі. Дзякуючы выездам у вёску спазнаў спецыфіку вясковага жыцця, характар сялянскай працы і сутыкнуўся з нескажонымі крыніцамі роднай беларускай мовы. Даследчык Піотуховіч, характарызуючы гэты аспект жыцця Гаруна піша: „Можа ўжо тут раскрылася яго душа для ўспрымання харастива прыроды; можа ўжо тут запалі ў яго сэрца абразкі роднай дзейнасці, — запалі моцна і звязалі яго непарыўнай і моцнай сувяззю з роднай краінай“. (М. Піотуховіч, Алесь Гарун, Нарысы гісторыі беларускай літаратуры, Мінск 1928 г., с. 169).

У шаснаццаць гадоў Гарун ужо зарабляе на сваё ўтрыманне. Выконваў цяжкую фізічную працу столяра на многіх мінскіх прадпрыемствах. Атмасфера, папярэджваючая першую рускую рэвалюцыю, а тым больш клімат самой рэвалюцыі ў сур'ёзнай ступені акрэслілі яго светапогляд.

Гарун не хацеў быць толькі назіральнікам палітычных падзей. Хацеў прымаць непасрэдны ўдзел у змаганні з існуючай палітычнай сістэмай. Тагачасны Мінск быў адным з вялікіх цэнтраў барацьбы з „святым“ і „вечным“ рускім самаўладдзем. Рэвалюцыя 1905 года ў супрацьлегласць многім папярэднім рэвалюцыйным зрывам, якія былі вынікам дзейнасці невялікіх груп (дзекабрысты, народавольцы) першы раз узняла на арэну змагання рабочы клас. Гарун, з крыві і косці рабочы, прыходзіць да вываду, што новая форма барацьбы не павінна адбывацца без яго. Несумненна, прымаў ён удзел у шматлікіх сходах, пасяджэннях, камітэтах. Быў, мабыць, знаёмы з рознымі палітычнымі арыентацыямі, якія існавалі ў тагачасным Мінску. З вялікай блытаніны тагачасных праграм, груповак, напрамкаў выбірае ён паўанархістычную партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Дэмагогія гэтай партыі, гвалтоўнасць і крайнасць яе праграмы знайшлі ў асобе Гаруна прыхільніка. У 1904 годзе Гарун уступае ў гэтую партыю. Было яму тады ўсяго 17 гадоў. Ці ў такім выпадку мог выбраць найлепшую партыю? Зрэшты, адкуль было вядома, якая з іх найлепшая? Адкуль было вядома, якая з тагачасных партый выйграе, а якая прайграе? Зрэшты, ў 1905 годзе прайгралі ўсе. Прайграў і царызм. Праўда, удалося яму разграміць рэвалюцыю, але рэвалюцыя ў такой ступені нарушыла фундамент царскай сістэмы, што гмах яе мусіў у канцы канцоў беззваротна зваліцца.

Гарун з галавой акунуўся ў рэвалюцыйную антыцарскую дзейнасць. Гэты малады хлапец, мабыць, больш ведаў, чаго не хоча, чым чаго хоча. Ведаў, што трэба зламаць рускую манархію, але наўрад ці меў ясную візію будучага свету. Жыць без цара, жыць без існуючай грамадскай сістэмы, — вось дэвіз, на службу якога прынёс малады Гарун свой запал, сваю энергію, сваю дзейнасць.



 

